# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

Штомесячны дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“

8-9 (12-13) Жнівень—Верасень 1929 г. № 8-9 (17-12)


ЗЬМЕСТ



## Задачы сельсаветаў па разгортваньні хлебазагатоўчай кампаніі.

Выкананьне хлебазагатоўчага пляну зьяўляецца ў працягу бліжэйшых месяцаў важнейшай гаспадарчай задачай дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый.

Пасьпяховае выкананьне пяцігадовага пляну народнае гаспадаркі, паскораньне тэмпаў будаўніцтва, бесьперабойнае забясьпечаньне рабочых гарадоў і сялянскай беднаты хлебам, узмацненьне абараназдольнасьці нашае краіны—усё гэта зьвязана з пасьпяховым выкананьнем хлебазагатоўчага пляну. Таму неабходна з боку сельсаветаў удзяліць выкананьню гэтай задачы выключную ўвагу і аказаньне сапраўднай дапамогі і садзейнічаньня хлебазагатоўчым арганізацыям на мясцох.

Пры наяўнасьці іншых вялікіх задач па будаўніцтву народнае гаспадаркі і культуры ў нашай краіне, мы ня можам дапусьціць, каб хлебазагатоўкі, па прыкладу мінулых гадоў, цягнуліся амаль што цэлы год і адрывалі значную частку савецкага і каапэрацыйнага апарату выключна для выкананьня гэтай задачы ў шкоду іншым. Апрача гэтага, шпаркае выкананьне хлебазагатоўчага пляну і канцэнтрацыя значных запасаў хлеба ў руках дзяржавы дасьць магчымасьць апошняй манэўраваць хлебнымі рэзэрвамі з найбольшай карысьцю для разьвіцьця народнае гаспадаркі краіны.

Пры выкананьні хлебазагатоўчага пляну сельсаветы павінны сачыць за тым, каб кулакі і заможныя сяляне ў першую чаргу прадавалі свой хлеб дзяржаве. Зразумела, што кулак хоча захаваць у сябе як мага больш хлеба і як мага даўжэй прытрымаць яго для таго, каб спэкуляваць на ім за кошт сялянскай беднаты ў першую чаргу, а затым і часткі сераднякоў, якія прымушаны купляць хлеб.

Хлеб у руках кулака—гэта ня толькі матар'яльная каштоўнасьць, гэта яшчэ і зброя барацьбы супроць савецкае ўлады і сродак прыгнечаньня сялянскай беднаты. Вось чаму кулак так рэзка выступае супроць мерапрыёмстваў савецкай улады на вёсцы, у прыватнасьці супроць хлебазагатовак. Ён, кулак, адчувае, што правадзімыя савецкай уладай мерапрыёмствы ў вёсцы нясуць яму верную пагібель і таму ён так абараняецца ўсімі сродкамі, якія ў яго яшчэ засталіся.

Сельсаветы павінны забясьпечыць ня толькі колькаснае выкананьне пляну, але і якаснае. Якаснае ў тым сэнсе, каб здатчыкі, асабліва кулакі, уносілі хлеб у адпаведных прапорцыях спажыўных і хлебафуражных культур. За гэтым трэба ўважліва сачыць, бо і тут кулак пастараецца шукаць, прадаючы менш каштоўныя культуры дзяржаве, а больш каштоўныя пастараецца перакінуць на прыватны рынак.

Роля сельсаветаў у бягучую хлебазагатоўчую кампанію выключная. Мінулыя кампаніі праходзілі міма сельсаветаў, або ў лепшым выпадку пры іх пасыўным наглядзе і фармальным садзейнічаньні. Зараз-жа зусім іншае. Кожны сельсавет поўнасьцю адказвае за выкананьне хлебазагатоўчага пляну на сваёй тэрыторыі.

Давядзеньне пляну хлебазагатовак да паасобных паселішчаў і гаспадарак праводзіцца ўпяршыню, бяз вопыту ў мінулым, і таму неабходна гэтай частцы работы ўдзяліць асаблівую ўвагу. Ад правільнай раскладкі заданьня па паасобных паселішчах і гаспадарках у значнай ступені залежыць посьпех хлебазагатоўчай кампаніі. Да гэтае справы трэба прыцягнуць усіх членаў сельсавету, вясковы актыў, жанчын-дэлегатак, камсамольцаў і настаўніцтва. Самае небясьпечнае, што можа быць,—гэта габінэтная разьвёрстка“ пляну па паселішчах і гаспадарках. Тут магчымы і грубыя памылкі і магчымы паасобныя злоўжываньні за кошт бядняцка-серадняцкіх груп. Выкананьне хлебазагатоўчага пляну павінна стаць вялікай грамадзкай справай.

Упартасьць кулацкіх элемэнтаў і іх супраціўленьне выкананьню хлебазагатоўчага пляну, павінна быць зламана цьвёрдай і рашучай палітыкай сельсавету і грамадзкім узьдзейнічаньнем бядняцка-серадняцкіх мас вёскі. Сельсаветы павінны таксама сачыць за тым, каб зярно з саўгасаў, калгасаў і ад сялян-кантрактантаў своечасова было здадзена дзяржаве. Калгасы і саўгасы павінны стаць узорам акуратнасьці

і прыкладам для асноўных мас сялянства па здачы хлеба. У справе здачы зэкантрактаванага зярна сялянствам не павінны быць дапушчаны памылкі мінулых гадоў, якія выразіліся ў чаканьні паступленьня закантрактаванага зярна і інш. прадуктаў самацёкам. Трэба так паставіць паверачную работу, каб своечасова і дакладна ведаць аб ходзе выкананьня кантрактаў і ў патрэбных мясцох нажымаць на выкананьне. Трэба селяніна выхоўваць і прывучаць да паважаньня ўмоў дагавору з дзяржавай. Кантрактацыя павінна дапамагаць увядзеньню элемэнтаў плянаваньня ў індывідуальную сельскую гаспадарку, з аднаго боку, і гарантаваць нашай прамысловасьці пэўную колькасьць і якасьць сыравіны, а рабочаму спажыўцу—хлеб. Толькі пры ўмове свае‹ч›асовага напамінку сялянству мы даб'емся ажыцьцяўленьня гэтых установак і атрымаем закантрактаваны хлеб. Калі-ж спозьнімся, дык будзе як і ў мінулым годзе,—гісторыя са зваротам грашовых авансаў без натуры,—што зьяўляецца абсалютна недапусьцімым і шкодным

Для пасьпяховага выкананьня хлебазагатоўчага пляну маюць вялікае значэньне адносіны да яго самiх членаў сельсавету. Селянін глядзіць на члена сельсавету як на перадавіка, як на асобу, якая павінна служыць прыкладам усім астатнім, і таму важна, каб члены сельсавету, якія маюць лішкі, першымі і поўнасьцю здавалі іх дзяржаве.

Ва ўмовах БССР памольны збор адыгрывае вялікую ролю ў нашым хлебным балянсе і займае ва ўсіх нашых хлебазагатоўках роўна 50%. Каштоўнасьць памольнага збору павялічваецца таму, што на 90% ён складаецца са спажыўных культур.

Намечаныя кантрольныя лічбы памольнага збору у 3,5 міл. руб. можна выканаць з перавышэньнем толькі пры ўмове, калі сельсаветы ўзмацняць свой кантроль і нагляд за млынамі. Пакладацца толькі на кантралёраў Саюзхлеба нельга, бо тады можна загубіць посьпех справы. Сельсаветы павінны аддаць увагу спагнаньню памольнага збору, наладзіць кантроль за млынамі і наглядаць за своечасовай адпраўкай памзбору на склады дзяржаўных і каапэрацыйных арганізацый.

У нас, у БССР, значнай частцы сялянства свайго хлеба не хапае, і яны прымушаны купляць яго. Кулак гэтым карыстаецца і ня толькі затрымлівае свой хлеб, але яшчэ стараецца скупіць хлеб у сябе на сяле і на кірмашох для перапродажу вясной па спэкуляцыйных цэнах. За такім кулаком-спэкулянтам трэба асабліва ўважліва сачыць і ўжываць да іх усе тыя меры ўзьдзейнічаньня, якія маюцца ў распараджэньні мясцовых органаў улады (падатковыя—патэнт, падаходны падатак, грамадзкія--байкот, палітычныя—пазбаўленьне выбарчага права і інш.). Таксама трэба ня менш уважліва сачыць за местачковым спэкулянтам-скупшчыкам, не дапушчаць разьездаў па вёсках і абходаў сялянскіх хат караць за скупку зярна на пад'ездных шляхох да мястэчак і г. д.

І, урэшце,—аб хаваньні хлеба. Важна ня толькі сабраць, але захаваць сабраны хлеб. У тых мясцох, дзе ёсьць склады зярна, сельсавет ад часу да часу павінен паглядзець—у якім становішчы знаходзіцца хлеб і ў выпадку неабходнасьці (псота, самаўзгараньне) прымаць меры на месцы, у патрэбных выпадках паведамляючы вышэйстаячым арганізацыям.

Сельсаветы павінны ўсьвядоміць сабе ўсю важнасьць выкананьня хлебазагатоўчага пляну і ўзяцца са ўсёй энэргіяй за яго стопроцантнае выкананьне.

К. Бэнэк.

# АБ РАБОЦЕ СЯРОД ЖАНЧЫН-ГРАМАДЧЫЦ.

Перавыбарчая кампанія саветаў гэтага году прайшла пры вялікім уздыме актыўнасьці рабочых і сялян (батрацтва, беднаты і серадняцтва). У параўнаньні з перавыбарчай кампаніяй 1926-27 г. удзел і актыўнасьць жанчын таксама на многа павялічыліся. Аб гэтым сьведчыць 40 проц. яўкі жанчын на перавыбары саветаў, супроць 26 проц. перадапошняй кампаніі.

Яшчэ лепшыя паказчыкі мы маем у справе павялічэньня ліку жанчын, выбраных у саветы; калі ў перадапошнім складзе саветаў было ўсяго 7,2 проц. жанчын—членаў саветаў, дык у саветах сучаснага складу лік жанчын узрос да 20 проц. Гэтыя лічбы даюць права зрабіць вывад, што на мясцох і партыйныя і савецкія органы аддалі належную ўвагу справе выкананьня задачы шырокага ўцягваньня жанчын у савецкае будаўніцтва. Праўда, ёсьць як выключэньне некалькі саветаў, у якіх жанчын членаў праведзена або мала, або зусім няма, напрыклад, Прусінскі с/с, Велікаборскі с/с, Магілёўскае акругі.

Нажаль, у нас няма дакладных лічбаў, характарызуючых сацыяльны склад жанчын—членаў саветаў, выбарчыя статматар'ялы не выдзяляюць членаў саветаў жанчын, а гэта не дазваляе зрабіць канчатковага вываду, як на мясцох аднесьліся да падбору кандыдатур жанчын з пункту погляду іх клясавай прыналежнасьці. Аб гэтай справе можна меркаваць па тых матар'ялах, якія здабыты абсьледваньнем 4-х раёнаў (Барысаўскага, Вузьдзенскага раёнаў, Менскае акругі, і Касьцюковіцкага і Быхаўскага раёнаў, Магілёўскае акругі): з агульнага ліку 519 жанчын--членаў саветаў, у гэтых раёнах налічваецца; работніц—8,6 проц., батрачак—3,5 проц., бяднячак—50,9 проц., актывістак-серадня́чак—18,3 проц. і іншых—18,7 проц.

Вылучэньне жанчын на практычную кіруючую работу ў саветы зроблена здавальняюча ў сэнсе колькасным; так, супроць 17 старшынь саветаў мінулага складу, цяпер выбрана 122 старшынь-жанчын.

Але-ж як адмоўны бок у гэтай справе заўважана тое, што значнай часткай раёнаў зусім ня выканана заданьне аб вылучэньні жанчын у саветы.

Таксама на мясцох ня ўсюды аддавалі досыць увагі справе выяўленьня вылучаемых кандыдатур па якасьці, чаму ёсьць прыклады няўдалага падбору іх, што выклікала ўжо факты адклікаwerЊня і зьняцьця з працы вылучаных (Мазырская акруга, Калінкавіцкі раён; Магілёўская акруга і раён).

Горш справа абстаіць па вылучэньні жанчын-грамадчыц на кіруючую працу ў савецкія органы раённага і акруговага маштабу. Так, з 29 вызначаных пасад для замяшчэньня вылучэнкамі-жанчынамі ў раённых установах і 25 у акруговых, вылучана на першыя—11 чал., а на другія—ўсяго 6. Праўда, гэтыя лічбы характарызуюць вынікі вылучэньня толькі па 5 акругах (астатнія 3 акругі ня далі ніякіх лічбаў), але ёсьць падстава лічыць, што апошнія тры акругі зусім ня выканалі дырэктывы аб вылучэньні жанчын на работу акруговага і раённага значэньня.

Але-ж калі ў справе колькаснага залучэньня жанчын у саветы і выканкомы ў гэтым годзе ёсьць некаторыя дасягненьні, дык у справе практычнай работы выканкомаў і

саветаў сярод выбраных у іх жанчын-грамадчыц хваліцца няма чым. Зробленае абсьледваньне працы саветаў і выканкомаў сярод грамадчыц па Менскай і Магілёўскай акругах характарызуе, што на мясцох надта мала рабілася для таго, каб замацаваць актыўнасьць жанчын у практычнай рабоце саветаў. Пры абсьледваньні Смалявіцкага, Барысаўскага, Вузьдзенскага раёнаў (Меншчына) і Касьцюковіцкага і Быхаўскага раёнаў (Магілёўшчына) выяўлена, што саветы і выканкомы аб асобнай працы сярод грамадчыц зусім забываюцца, чаму ў плянах работ іх нічога не вызначаецца па гэтай справе. Амаль зусім не практыкуюць на мясцох уцягваньня грамадчыц у работу праз пэрсанальную нагрузку іх працаю як часовага, так і сталага характару. Цікава адзначыць, што саветы пры разьмеркаваньні работы ўскладаюць розныя даручэньньні на мужчын, а жанчын вызначаюць толькі ў дапамогу—памоцнікамі першым; работнікі месц тлумачаць гэты парадак тым, што як-бы жанчына малапісьменна і ня можа выконваць даручэньняў (Самацэвіцкі, Красьніцкі і Касьцюковіцкі саветы). Слаба саветы і выканкомы ўцягваюць жанчын—членаў саветаў у працу па правядзеньню масавых кампаній: па с/гас. падатку, пасяўных, хлебазарыхтоўчых і інш. Складанасьць работы гэтае, паводле памылковага пагляду на мясцох, можа быць здолена толькі сіламі мужчыны, а не жанчыны, чаму апошняй і даручэньняў не даецца для ўдзелу ў гэтых кампаніях.

У часе абсьледваньня аднаго с/савету старшыня апошняга казаў: „даручаць жанчыне—члену савету работу кампанейскага характару нельга таму, што як грамадчыцу, могуць і зганьбіць і падарваць яе аўтарытэт, а з мужчынай гэтага не здарыцца“.

Пераважная частка саветаў і выканкомаў не праводзіць з грамадчыцамі пэрыядычных нарад. Такім чынам, для грамадчыц застаецца адна форма для ўдзелу ў рабоце саветаў і выканкомаў—гэта ўдзел у пасяджэньнях пленумаў і прэзыдыумаў іх ды ў камісіях. Аднак, і гэта форма добра не выкарыстоўваецца, не заўсёды паведамляюць грамадчыц аб пасяджэньнях і амаль нічога ня робяць у напрамку стымуляваньня праяўленьня актыўнасьці грамадчыц.

Нездавальняюча арганізавана і аказваецца дапамога ў практычнай рабоце жанчынам-грамадчыцам, вылучаным на кіруючую сталую працу ў савецкія органы: выканкомы не забясьпечылі вылучаных грамадчыц пастаянным інструктажам, ня ўсюды забясьпечваюць дапамогаю праз прымацаваньне вопытных работнікаў да ўстаноў, дзе працуюць вылучэнкі.

Калі што і зрабілі на мясцох па справе дапамогі грамадчыцам-жанчынам членам саветаў і выканкомаў і вылучэнкам, дык гэта ў напрамку тэарэтычнай падрыхтоўкі іх. Па ўстаноўленай схэме курсаў—доўга і каротка-тэрміновых—удалося ахапіць падрыхтоўкаю амаль увесь склад грамадчыц наогул і вылучэнак у прыватнасьці. Жанчыны, вылучаныя на кіруючую працу ў саветы і раённыя і акруговыя ўстановы, праходзілі падрыхтоўку: 50 чал.—на шасьцітыднёвых курсах пры ЦВК і астатнія 83 чал.—на месячных акруговых курсах сумесна з мужчынскім складам старшынь саветаў. Некаторыя акругі (напрыклад, Мазырская) правялі двухтыднёвыя акруговыя курсы для жанчын-грамадчыц-вылучэнак. Апрача таго, пераважная колькасьць раёнаў правялі па ўсіх саветах каротка-тэрміновыя курсы-нарады, якімі ахапілі амаль увесь склад жанчын—членаў саветаў. У гэтай справе больш адсталі акругі Аршанская і Менская, якія каротка-тэрміновыя курсы-канфэрэнцыі і дагэтуль не правялі па ўсіх саветах, чаму жанчыны—члены саветаў і дагэтуль застаюцца без падрыхтоўкі. Ня ўсюды створаны спрыяючыя ўмовы для работы вылучэнак-грамадчыц. Ёсьць праявы, калі вылучэнак злоўмысьля кампрамэтуюць; не даецца належнага адпору тым, што дапушчаюць розныя хуліганскія ўчынкі ў адносінах да вылучэнак, з мэтаю дыскрэдытаваць іх (Вушацкі раён, Полаччына).

Зусім зразумела, што ў далейшым выканкомам і саветам трэба зьвярнуць больш увагі і ўзмацніць сваю работу з грамадчыцамі.

Які-ж мерапрыемствы павінны праводзіць саветы і выканкомы?

Наладзіць сыстэматычную работу сярод грамадчыц у справе клясавага іх выхаваньня. Гэтай рабоце выканкомы і саветы павінны аддаць найбольш увагі і стараньня, улічваючы, што ад кожнага, нават нізавога работніка, патрабуецца выразнае разуменьне і чоткае захаваньне клясавай лініі ў практычнай працы. Узьняцьце клясавай сьвядомасьці і вытрыманасьці ўцягнутых у саветы і выканкомы жанчын выклікаецца ўсё большым абвастрэньнем клясавай барацьбы як у горадзе, так і ў вёсцы, у выніку рашучага наступленьня сацыялістычных элемэнтаў на капіталістычныя; таму толькі сьвядомая ў сутнасьці клясавай палітыкі Камуністычнай партыі і Савецкай улады жанчына-грамадчыца можа правільна арыентавацца ў справе захаваньня клясавай лініі ў практычнай рабоце.

Адначасова саветы і выканкомы павінны вывучаць кадры грамадчыц сучаснага складу ў напрамку выяўленьня іх клясавай вытрыманасьці, каб гэтым забясьпечыць на будучы час лепшы падбор жанчын-грамадчыц.

Забясьпечыць самую шырокую дапамогу ўсім грамадчыцам у справе ўцягненьня ў практычную работу, праз вызначэньне пэрсанальнае нагрузкі для кожнае з іх: работа ў камісіях, кіраўніцтва часовымі і сталымі камісіямі, выдзяленьне ўпаўнаважаных на вёсцы, даручэньне праводзіць сходы, вызначэньне выступаць з дакладам на сходах вёскі, або на пасяджэньнях прэзыдыумаў і пленумаў саветаў і выканкомаў, уцягваць у практычную работу масавых кампаній, прымацоўваць да ўстаноў і арганізацый.

Пры некаторых выканкомах і саветах ужо арганізаваны, а ў астатніх павінны быць арганізаваны камісіі па палепшаньню працы і быту жанчын. Работа бытавых камісій зьяўляецца добраю формаю ўцягненьня ў першую чаргу ўсіх грамадчыц. А таму выканкомам і саветам патрэбна аформіць арганізацыю бытавых камісій, дзе гэткія ня створаны яшчэ, і наладзіць работу і так, каб залучыць усіх грамадчы у працу.

Трэба лепш, чым гэта рабілас да апошніх часоў, забясьпечыць вылучаных на практычную работу жанчын-грамадчыц практычнаю дапамогаю праз правядзеньне з імі пэрыядычных нарад па пытаньнях практычнай работы. Выканкомы павінны дапамагчы вылучэнкам асвоіць даручаную работу праз прымацаваньне да ўстаноў, дзе працуюц вылучэнкі, вопытных работнікаў.

На абавязак прымацавэных таварышоў трэба ўскласьці поўную адказнасьць за выкананьне дапамогі вылучэнцам. Назалежна ад гэтага трэба ў дастатковай меры забясьпечыць вылучэнак інструктажам у практычнай рабоце, чаму належыць час ад часу пасылаць інструктара, або іншага вопытнага работніка для праверкі і наладжаньня работы ў савеце, дзе працуе вылучэнка.

У ліку жанчын—членаў саветаў і выканкомаў—налічваецца каля 20% няпісьменных. Вядома, што выха-

# Пра камісіі па палепшаньню працы і быту жанчын.

Жанчына ў савецкай краіне карыстаецца ўсімі палітычнымі і грамадзянскімі правамі, у прававых адносінах нічым не адрозьніваецца ад мужчын. Але для таго, каб жанчына мела магчымасьць карыстацца сваімі правамі, патрэбны адпаведныя ўмовы. Жанчына, напрыклад, мае права выбіраць у саветы, а калі ёй трэба ісьці на выбарчы сход, дык раней ёй патрэбна падумаць, як урэгуляваць хатнія справы: прыстроіць кады-небудзь дзяцей, падумаць аб жывёліне, паклапаціцца аб страве і г. д. Гэта-ж самае наогул перашкаджае жанчына актыўна ўдзельнічаць у грамадзкай рабоце, у рабоце саветаў. Яшчэ больш пагоршваецца становішча жанчыны ў вёсцы, дзе ёй ў хатнім быту прыходзіцца заваёўваць сабе фактычнае права (юрыдычнае яна мае) быць роўнай мужчыне, часьцей заўсё мужу. Апошні ўсё яшчэ ў некаторых мясцох лічыць сябе гаспадаром з неабмежаванымі правамі, уключаючы сюды і „рукапрыкладзтва“. Жанчына, з прычыны няпісьменнасьці, вельмі лёгка падпадае пад уплыў папоў ўсіх колераў, зварачваецца за мэдычнай дапамогай да знахароў і г. д. Калі ў горадзе ўсё гэта назіраецца ў меншых разьмерах, дык у вёсцы разьмеры бытавога заняволеньня жанчыны вельмі значныя. Асабліва цяжка ад някультурнасьці, няпісьменнасьці, эксплёатацыі кулацкімі элемэнтамі даводзіцца на вёсцы батрачкам.

Справа бытавога разьняволеньня жанчын зьяўляецца вельмі важнай справай у сацыялістычным будаўніцтве. Пасьпяховасьць апошняга патрабуе ўдзелу ў будаўніцтве ўсіх працоўных мас, прычым гэты ўдзел павінен быць актыўным і зусім сьвядомым. Але большасьць і вельмі значная большасьць жанчын з прычыны бытавых умоў ня прымае ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве. Яе ня пушчаюць, так сказаць, каровы, сьвіньні, ня пушчаюць пялёнкі, дзеці... З прычыны няпісьменнасьці ўдзел жанчыны ў грамадзкім жыцьці па актыўнасьці і сьвядомасьці бывае нездавальняючым. У гэтай справе трэба зрабіць зрух, трэба дапамагчы разьняволеньню жанчыны і зрабіць усё магчымае, каб жанчына і ў быту стала такой самай вольнай, якой яна зьяўляецца ў савецкім законадаўстве.

Жаночыя аддзелы ў гарадох, жанарганізатары ў раёнах робяць вялікую справу па падняцьцю палітычнага і культурнага ўзроўню жанчын, па залучэньню іх ў грамадзкае жыцьцё. Але на гэтым фронце паказаных сіл недастаткова. Трэба справу па разьняволеньню жанчын паставіць шырэй і ўцягнуць ў яе яшчэ больш працоўных і саміх жанчын.

Усё сказанае паслужыла падставай для выданьня 8-га чэрвеня г. г. Прэзыдыумам ЦВК БССР пастановы „Пра камісіі (сэкцыі) па палепшаньню працы і быту жанчын пры саветах і выканаўчых камітэтах“. Мэты выданьня гэтых законаў вызначаны ў ім так: утварэньне магчымасьці большага разгортваньня работы саветаў у галіне палепшаньня працы і быту жанчын і залучэньня ў гэту работу большых мас працоўных і ў першую чаргу саміх працоўных жанчын; накіраваньне іх ініцыятывы і творчай энэргіі, а таксама сродкаў і сіл працоўных на змаганьне з адсталасьцю і на будаўніцтва новых грамадзка-культурных форм быту. Згодна гэтай пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР, пры ўсіх гарадзкіх, местачковых і сельскіх саветах і пры акруговых і раёнfamous выканаўчых камітэтах павінны быць арганізаваны камісіі (пры гарадзкіх саветах—сэкцыі) па палепшаньню працы і быту жанчын.

Камісіі пры саветах зьяўляюцца найбольш удалай зараз масавай арганізацыяй, праз якую ў савецкае будаўніцтва залучаюцца шырокія колы працоўных. Звычайна камісіі яднаюць вакол саветаў увесь актыў і садзейнічаюць далейшаму павялічэньню кадраў гэтага актыву. Яны зьяўляюцца выхаваўчай школай, якая падрыхтоўвае новых працаўнікоў на адказныя пасады. Камісіі па сваёй галіне прапрацоўваюць розныя пытаньні і ўносяць іх на вырашэньне ў адпаведныя саветы, зьяўляючыся практычнымі памоцнікамі саветаў. Задачы, што ставяцца перад камісіямі, залежаць ад таго, якую галіну работы камісія абслугоўвае. Задачамі камісій (сэкцый) па палепшаньню працы і быту жанчын зьяўляецца распрацоўка і ажыцьцяўленьне праз саветы і выканаўчыя камітэты і іншыя дзяржаўныя арганізацыі практычных мерапрыемстваў, накіраваных на перабудаваньне быту працоўных жанчын, на падняцьце іхнага культурнага ўзроўню, на аказаньне ім праўнае абароны і эканамічнае дапамогі і на дапамогу для залучэньня жанчын, у першую чаргу работніц, батрачак і бяднячак, у практычную работу саветаў і выканаўчых камітэтаў.

Што павінны канкрэтна рабіць бытавыя камісіі ў розных галінах? У галіне перабудаваньня быту на камісіі ўскладзена распрацоўка мерапрыемстваў для палепшаньня ўмоў жыцьця жанчын работніц і сялянак: арганізацыя на грамадзкіх асновах культурна-бытавых установ, напрыклад, пляцовак, грамадзкіх сталовак, пральняў, ясьляў, дзіцячых садоў, пякарняў і г. д. Гэтыя мерапрыёмствы маюць вялікае значэньне для працоўных жанчын. Арганізацыя ясьляў, дзіцячых садоў і інш. дае магчымасьць жанчыне сапраўды далучыцца да грамадзкага жыцьця, наведваць сходы, або спакойна працаваць на полі, на фабрыцы, не баючыся за лёс пакіну-

---

...заўчую працу з імі трэба пачаць з ліквідацыі агульнай няпісьменнасьці іх, чаму і выканкомы і саветы павінны забясьпечыць правядзеньне гэтага мерапрыемства праз арганізацыю з груп грамадчыц спэцыяльных ліктпунктаў, або праз прымацаваньне грамадчыц - адзіночак да ліквідатараў.

У значнай меры будзе спрыяць пашырэньню ўдзелу жанчын-грамадчыц у савецка-грамадзкім будаўніцтве стварэньне лепшых умоў у справе абслугоўваньня іх саміх і іх дзяцей бытавымі ўстановамі: ясьлямі, дзіцячымі садамі, пляцоўкамі і інш.

Гэты момант і саветы і выканкомы абавязкова павінны ўлічыць і як мага, дзе толькі ёсьць магчымасьць, забясьпечыць грамадчыцам дапамогу ў гэтых адносінах.

Апошняя заўвага зводзіцца да таго, каб забясьпечыць на мясцох ахову вылучэнак ад злоўмыснасьці, кампрамэтацыі, падседжваньня, хуліганскіх учынкаў і інш. Саветам і выканкомам неабходна павесьці рашучую барацьбу з адзначанымі шкоднымі праявамі, накіраванымі на падрыў аўтарытэту жанчыны-грамадчыцы. Гэтыя праявы трэба каранным чынам зьнішчыць, аргазоўваючы паказальныя грамадзкія суды над вінаватымі.

А. Лукашэвіч.

# Сельсаветы і калектывізацыя вёскі.

У шэрагу розных мерапрыёмстваў, вызначаных XVI-й партканфэрэнцыяй і V-м Усесаюзным Зьездам Саветаў для рэканструкцыі нашай гаспадаркі ў цэлым і сельскай у прыватнасьці, адно з першых месц займае калектывізацыя вёскі: пашырэньне сеткі калектываў, узбуйненьне і ўмацаваньне працы старых.

Ад пасьпяховасьці працы па калектывізацыі залежыць павялічэньне прыбытковасьці сельскай гаспадаркі і яе таварнасьці.

Ад пасьпяховасьці яе залежыць магчымасьць узьняцьця ўраджайнасьці і павялічэньня пасеўнай плошчы; ад пасьпяховасьці гэтай працы залежыць магчымасьць прасоўваньня ў вёску буйнай машыны, якая палягчае сялянскую працу.

У пасьпяховасьці яе ляжыць адзіны выхад ня толькі для бядняцкіх гаспадарак, але і для серадняцкіх, якія наўхільна дробяцца.

Значэньне калектывізацыі ўсё больш асазнаецца шырокімі коламі насельніцтва.

Вельмі рэдка ў сучасны момант даводзіцца чуць на вёсцы сур'ёзныя супярэчнасьці супроць калектывізацыі.

„Мы ня супроць калгасу, толькі вось бабы ня хочуць". „У нас брат з братам ня могуць сумесна ўжыцца і дзеляцца, як-жа мы будзем усе разам". Вось звычайныя словы, якія адсталы селянін яшчэ высоўвае супроць калгасу, калі ня лічыць таго, што іншы раз дрэнная пастаноўка працы ў існуючым калгасе дае лішні раз козыр у рукі кулака.

Лепш за ўсё аб зьмене адносін насельніцтва да калгасаў сьведчыць тая вялікая цяга ў калгасы, якая ахапіла сялянства ў апошнія два гады. Калі ў 1927-28 г. у калгасы ўноў аб'ядналася па Беларусі каля 4.000 гаспадарак, дык ужо ў наступным 1928-29 г. гаспадарак пераштоўшых ужо ў калектывы было больш 10.000. І гэты лік усё больш і больш расьце.

Па пяцігадоваму пляну разьвіцьця гаспадаркі, у 1932-33 годзе 16% усёй зямлі па БССР, або 126.000 гаспадарак павінны быць аб'яднаны ў калгасы. Гэта задача вялікая, але зусім рэальная.

Што затрымлівае ў сучасны момант рост калгасаў на вёсцы?

Аб коснасьці і нежаданьні сялянства ісьці ў калгасы, як ужо паказана, ня прыходзіцца гаварыць.

Галоўным тормазам у росьце калгасаў зьяўляецца недахоп ініцыятывы на мясцох, адсутнасьць часта органу або чалавека, які-б энэргічна ўзяўся за гэту працу ў самым с-с. І пагэтаму ўсё больш узьнікае пытаньне аб тым, што-ж робяць с-саветы і яго камісіі ў гэтай справе.

Прыходзіцца прызнаць, што да сучаснага моманту пераважная большасьць сельсаветаў нічога не рабіла ў справе калектывізацыі.

Са ўсіх матар'ялаў, якія ёсьць у ЦВК, а таксама і тых, якія бываюць у нашым друку, відаць, што ёсьць толькі адзінкавыя выпадкі, калі с-с сур'ёзна займаўся гэтым пытаньнем.

Мала таго, ёсьць шмат выпадкаў, калі с-с нічога ня робіць нават і ў той час, калі на яго тэрыторыі арганізоўваецца калгас. Адсюль мы маем выпадкі, калі замест бядняцка-серадняцкага калгасу арганізоўваюцца ілжэкалгасы пад кіраўніцтвам кулака, як гэта мела месца ў Быхаўскім і Прапойскім раёнах. Адсюль і выпадкі, калі калгас не ўзмацняецца, а пад уплывам кулакоў і падкулачнікоў развальваецца.

Такое становішча далей ня можа працягвацца. Сельсавет, як кіруючы савецкі орган, на сваёй тэрыторыі павінен узяць працу па будаўніцтву калгасаў у свае рукі.

Што канкрэтна павінен рабіць сельсавет у гэтай галіне?

1) Сельсавет павінен высьветліць магчымасьць арганізацыі калектываў з цэлых вёсак. Калі вёска малая, налічвае 30—40 гаспадарак, дык трэба паставіць пытаньне аб пераводзе ўсёй вёскі на калектыўныя асновы. Калі вёска адразу не згаджаецца, дык трэба распрацаваць мерапрыёмствы да паступовай калектывізацыі вёскі (супольная закупка больш буйных машын палепшаньне жывёлы, пабудова супольнага сьвірну для збожжа, пабудова супольнай узоравай канюшні і г. д.) Трэба падрыхтаваць да гэтага хоць-бы большасьць насельніцтва, асабліва беднату.

2) Сельсавет павінен павесьці асабліва рашучую працу па пераводу пасёлкаў у калектывы, таксама або адразу, або шляхам паступовых мерапрыёмстваў.

3) У больш буйных вёсках трэба праз сходы, нарады беднаты, бядняцка-серадняцкага актыву, падрыхтаваць групы сялян да арганізацыі калгасу. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на першапачатковыя таварыствы (машынныя, насенныя, жывёлагадоўчыя), як грунт будучага калгасу. Трэба для гэтай мэты склікаць супольныя нарады праўленьняў, саветаў.

4) Калі згода вёскі, пасёлку, групы сялян ужо ёсьць, с-савет павінен узяць на сябе хуткае прасоўваньне гэтай пастановы ў РВК, выкліканьне агранома або іншага прадстаўніка РВК для афармленьня статуту і для вызначэньня месца і межаў будучага калгасу. Пры гэтым сельсавет павінен прыняць актыўны ўдзел у падборы складу калгасу і сачыць за тым, каб у калгас не ўвашлі кулакі і падкулачнікі з мэтай падрыву калгасу.

5) Сельсавет павінен выявіць ці ёсьць запасны фонд для дадатковай прырэзкі калгасу.

6) Сельсавет павінен усімі спосабамі дапамагаць прадстаўнікам РВК, у прыватнасьці каморніку, пры афармленьні калгасу і сачыць за тым, каб калгас сваечасова атрымаў дапамогу ад каапэрацыйных органаў (крэдыт, машыны, насеньне і г. д.).

7) Калі калгас ужо пачаў сваю працу, с-савет павінен аказваць яму дапамогу ў перанясеньні будынкаў, у атрыманьні лесу для новых калектыўных пабудоў, сачыць за тым, каб лепш апрацоўвалася глеба, каб пашыралася пасеўная плошча, каб правільна скарыстоўваліся крэдыты, каб ня было сварак у калгасе. Гэта трэба с-с праводзіць, з аднаго боку, як шляхам заслухоўваньня дакладаў аб працы калгасу на прэзыдыуме, пленуме і камісіях, гэтак і шляхам наведваньня калгасу і азнаямленьня з працай яго асобнымі камісіямі сельсавету.

8) Гэткую-ж увагу сельсавет павінен аддаць і старым калгасам. Сельсаветы павінны прыняць усе крокі да таго, каб гэтыя калгасы апрацоўкай глебы, вялічынёй ураджаю, становішчам жывёлы і ўсім вядзеньнем сваёй гаспадаркі сталі ўзорнымі і служылі прыкладам для індывідуальных сялянскіх гаспадарак.

Праца па калектывізацыі вёскі павінна стаць у асяродку ўсёй працы кожнага сельсавету.

Той сельсавет, які ня здолее нічога зрабіць у гэтай важнейшай галіне работы, яскрава пакажа, што ён ня можа праводзіць дырэктыў ураду ў жыцьцё і ня можа прыстасоўваць сваёй працы да самых грунтоўных інтарэсаў гаспадаркі і бядняцка-серадняцкіх мас.

В.

# НОВЫ ЗАКОН

## пра рэарганізацыю і спрашчэньне савецкага апарату і пашырэньне правоў мясцовых органаў улады.

22 сьнежня 1927 г. ЦВК і СНК БССР была выдадзена пастанова „Пра рэарганізацыю і спрашчэньне савецкага апарату і пашырэньне правоў мясцовых органаў улады“. Гэта пастанова была вынікам агромністай работы па вывучэньню савецкага апарату. У работу па вывучэньню апарату былі ўцягнуты нізавыя масавыя арганізацыі з шырокім удзелам працоўных. Асабліва важную ролю адыгралі ў праверцы работы савецкага апарату сэкцыі і камісіі РСІ пры саветах. Вывучэньне апарату паказала, што для яго палепшаньня, для зьнішчэньня бюракратызму неабходна яго рэарганізацыя ў кірунку: дэцэнтралізацыі адміністрацыйных функцый, зьнішчэньня роўналегласьці паміж рознымі ўстановамі, скарачэньня справаздачнасьці і спрашчэньня структуры апарату. Усё гэта і было пакладзена ў аснову закону за 22 сьнежня 1927 г. Галоўныя функцыі адміністраваньня былі перададзены, згодна гэтаму закону, ад акруговых выканаўчых камітэтаў райвыканкомам і гарадзкім саветам. Дзякуючы гэтаму, функцыі і пабудова акруговага апарату былі значна спрошчаны. Некаторыя аддзелы акрвыканкомаў былі пераведзены на функцыянальную сыстэму. Шэраг функцый з наркаматаў быў перададзены акрвыканкомам, чаму народныя камісарыяты, разгрузіўшыся ад вырашэньня параўнаўча дробных пытаньняў, атрымалі магчымасьць зьвярнуць больш увагі справе пляніраваньня і рэгуляваньня.

Але на гэтым справа ня была скончана. Будзе правільна сказаць, што гэтым справа палепшаньня апарату толькі распачалася. Праведзеная рэарганізацыя і рацыяналізацыя закранулі пераважна цэнтральны і акруговы апарат, чаму ЦВК БССР, калі зацьвярджаў 13 студзеня 1928 г. на II Сэсіі VIII скліканьня закон за 22 сьнежня 1927 г., палічыў патрэбным „і далей весьці працу па палепшаньню дзяржаўнага апарату, пашыраючы гэту працу аж да раёных выканаўчых камітэтаў і сельскіх саветаў“. Адначасова ЦВК БССР пастанавіў „абавязаць усе народныя камісарыяты ўжыць належныя захады да ажыцьцяўленьня зацьверджанага закону, а таксама вызначыць далейшыя мерапрыёмствы па рацыяналізацыі дзяржаўнага апарату і палепшаньні яго працы шляхам шырокага прыцягненьня праз саветы, саюзы і друк да гэтай справы працоўных мас“. Значыцца, месцы і цэнтральныя ўстановы павінны былі: па-першае—ажыцьцявіць пастанову пра рэарганізацыю і спрашчэньне савецкага апарату і па-другое—вызначыць далейшыя мерапрыёмствы ў гэтай справе. Адносна першага III Сэсія ЦВК БССР VIII скліканьня па дакладу аб масавай рабоце саветаў адзначыла 23 верасьня 1928 г., што „пашырэньне правоў саветаў значна наблізіла іх да насельніцтва, павялічыла магчымасьць росту вакол саветаў актыву з пралетарскіх і сялянскіх мас“. Гэта гаворыць аб тым, што першая задача—ажыцьцяўленьне закону—была выканана з посьпехам. Другая задача—распрацоўка далейшых мерапрыёмстваў—выконвалася пры непасрэдным удзеле НК РСІ, які шэрагам абсьледваньняў вызначыў тыя вучасткі работы, якія вымагалі палепшаньня. Быў складзены ў дадатак да закону за 22 сьнежня 1927 г. праэкт новага закону „пра рэарганізацыю і спрашчэньне савецкага апарату і пашырэньне правоў мясцовых органаў улады“. У абмеркаваньне праэкту былі залучаны шырокія масы працоўных і мясцовыя органы ўлады, і гэты праэкт быў прыняты ЦВК і СНК БССР 17 верасьня 1929 г.

Новы закон, новых зьмен у структуру савецкага апарату амаль ня ўносіць. Ёсьць толькі такія зьмены, як увядзеньне ў атэстацыйна-прыймовыя камісіі пры органах міліцыі і крымінальнага вышуку сталага прадстаўніка ад ваеннага камісарыяту, перадача гарадзкім саветам справы сацыяльнага забясьпечаньня гарадзкога насельніцтва і арганізацыя пры РВК адміністрацыйных частак. Ва ўсім астатнім новы закон датычыцца перагляду правоў і абавязкаў мясцовых органаў савецкага кіраўніцтва ў бок перадачы месцам новых правоў і ўскладаньня на іх новых абавязкаў. Некаторыя галіны работы пры гэтым значна рацыяналізуюцца. Як напрыклад, можна паказаць на зьнішчэньне спэцыяльных лекавых кніжак для застрахаваных. Пабудова новага закону з фармальнага боку таксама значна адрозьніваецца ад старога. Калі стары закон гаварыў пра рэарганізацыю і спрашчэньне савецкага апарату па паасобных органах улады (народныя камісарыяты, саветы і выканаўчыя камітэты), дык новы закон гаворыць аб спрашчэньні работы савецкага апарату, аб яе рацыяналізацыі па паасобных галінах работы (у галіне фінансавай, земляробства, аховы здароўя і г. д.).

Якія новыя правы дае новы закон месцам і якія новыя абавязкі ўскладае на іх?

Сельскія саветы па закону за 22/XII 1927 г. атрымалі права прымаць адзіны сельска-гаспадарчы падатак і плацяжы па акладным страхаваньні, але афармленьне прыманьня грошай было пакінута за райвыканкомамі. Новы закон зараз ускладае на сельскія саветы канчатковае афармленьне прыманьня паказаных падатку і плацяжоў. Сельскія саветы атрымалі зараз права падаваць іскі аб адабраньні зямель працоўнага карыстаньня, якія скарыстоўваюцца незаконна; права вырашаць пытаньні аб перамене домгаспадара; права даваць заключэньні аб ацэнцы пабудоў і гаспадарчых палепшаньняў у выпадках адабраньня зямель для дзяржаўных або гаспадарчых патрэб і, урэшце, права разьмяркоўваць пасьля ўзгадненьня з лясьнічымі лясныя дзялянкі для пашы жывёлы (у лясох дзяржаўнага значэньня) і складаць сьпісы гаспадарак, якія маюць права на пашу жывёлы ў гэтых лясох, з паказаньнем ліку жывёлы ў гаспадарках. На сельскія саветы ўскладзен абавязак спагнаньня штрафаў, што накладаюцца ў адміністрацыйным парадку, і спагнаньне грошай па выканаўчых лістох судовых органаў на суму ў адным і ў другім выпадку да 50 рублёў.

Раённыя выканаўчыя камітэты (райфінчасткі) ў галіне фінансавай атрымалі права зьнімаць нядоімкі па дзяржаўных непадатковых даходах на суму да 100 рублёў. У межах зацьверджанага бюджэту на асобныя мерапрыемствы старшыня РВК мае права зацьвярджаць каштарысы да 200 рублёў, а звыш 200 руб.—прэзыдыумы РВК. З асыг-

заваньняў на непрадугледжаныя выдаткі старшыні РВК маюць права рабіць выдаткі на суму да 100 р., зачыняць крэдыты ўстаноў, што знаходзяцца на райённым бюджэце, і інш. РВК маюць права варочаць пераплаты і няправільна спагнаныя сумы ўсякіх штрафаў, што накладзены ў адміністрацыйным парадку. РВК канчаткова зацьвярджаюць членаў райённых лясных камісій. Пры ўсіх РВК арганізуюцца адміністрацыйныя часткі. РВК, урэшце, атрымалі права зьнімаць і зьмяншаць для лесапарубшчыкаў-беднякоў карняўны кошт самавольна сьсечанага лесу.

Акруговыя выканаўчыя камітэты і іх аддзелы ў галіне фінансавай атрымалі наступныя правы: зьнімаць нядоімкі дзяржаўных непадатковых даходаў на сумму да 1000 р., зацьверджаньне каштарысаў у межах зацьверджанага бюджэту—загадчык АкрФА да 300 р., старшыня АВК—да 500 руб. і звыш гэтай сумы—прэзыдыум АВК. У галіне адміністрацыйнага кіраўніцтва АВК атрымалі права канчатковага выбару членаў акруговага суду і права беспасрэднага нагляду за сельскагаспадарчымі калёніямі, прадпрыемствамі і майстэрнямі пры папраўча-працоўных дамох і зацьверджаньня плянаў іх дзейнасьці. У галіне працы акруговыя інспэкцыі працы зьяўляюцца канчатковым органам нагляду за рашэньнямі расцэначна-канфліктных камісій і маюць права рабіць дагавары на санітарна-тэхнічныя мерапрыёмствы таксама і з прадпрыёмствамі, падпарадкаванымі Вышэйшаму Савету Народнае Гаспадаркі.

Гарадзкім саветам у галіне фінансавай наданы тыя-ж правы, што і райённым выканаўчым камітэтам. У галіне сацыяльнага забясьпечаньня гарадзкім саветам перададзена справа забясьпечаньня гарадзкога насельніцтва. У галіне камунальнай гаспадаркі камгасы атрымалі права спаганяць у адміністрацыйным парадку чарговыя выплаты за жылыя і гандлёвыя памяшканьні і бясспрэчныя нядоімкі за камунальныя паслугі. У галіне адміністрацыйнага кіраўніцтва гарсаветы атрымалі права адміністрацыйнага высяленьня асоб, якія самавольна занялі жылыя або гандлёвыя памяшканьні.

У сувязі з перадачай шэрагу правоў мясцовым органам улады, за наркаматамі па адпаведных галінах работы пакінуты толькі агульны нагляд і права даваць дырэктывы. Так, напрыклад за НКФ у галіне ўстанаўленьня даходаў ад дзяржаўнай маемасьці пакінута права даваць агульныя дырэктывы. За НКФ пакінуты нагляд за спагнаньнем нядоімак па непадатковых даходах і за паступленьнем бягучых выплат па матар'ялах касавай справаздачнасьці і па падрахунках ведамстваў, але бяз права абсьледваньня касы. Органы НКФ праводзяць беспасрэдна нагляд за дзейнасьцю сельскагаспадарчых крэдытных таварыстваў, але толькі праз іх саюзы. Усе народныя камісарыяты атрымалі права самастойна на працягу бюджэтнага году, з паведамленьнем НКФ, перамяшчаць асыгнаваньні па каштарысах падпарадкаваных ім установў і прадпрыемстваў з аднаго параграфу ў другі ў межах 10% агульных каштарысных асыгнаваньняў па апарату ўстановы, апроч заработнай платы.

Розныя ўстановы атрымалі больш самастойнасьці ў сваёй дзейнасьці. Так, напрыклад, права распарадчыкаў крэдытаў дадзена ўсім загадчыкам школ сямігодак і школ 2-й ступені, загадчыкам 2, 3 і 4-х камплектных школ, школ сялянскай моладзі, усім загадчыкам прафшкол, народных дамоў, садоў, дзіцячых дамоў, дамоў інвалідаў і больніц і іншых мэдыка-санітарных установў. Загадчыкам лекавых і прафіляктычных установў дадзена права назначаць дактароў для гэтых установў. Прапанавана НК Аховы Здароўя правесьці далейшую дэцэнтралізацыю кіраўніцтва аптэчнай справай, даўшы загадчыкам аптэк большыя правы пры кіраваньні аптэкамі, у паасобку, даць правы загадчыкам аптэк рабіць гаспадарчыя выдаткі ў межах зацьверджанага дагавору каштарысу і наймаць і звальняць рабочых і служачых падпарадкаваных ім аптэк.

Скасован парадак атрыманьня лекавай дапамогі па спецыяльных лекавых кніжках для застрахаваных. З гэтага часу довадам права працоўнага на лекавую дапамогу зьяўляюцца: разьлікавыя кніжкі, прафсаюзныя білеты, пасьведчаньні з месца працы і іншыя даведкі, якія сьведчаць аб працы.

Усё гэта зьяўляецца зьместам новага закону, працягам рэарганізацыі і спрашчэньня савецкага апарату. Гэты закон мае мэтай набліжыць яшчэ больш савецкі апарат да насельніцтва, зьнішчыць бюрократызм і валакіту, для чаго і пашыраюцца правы мясцовых органаў улады. Дасягненьне пастаўленых мэт набывае асаблівае значэньне зараз, калі ўсе ўстановы, увесь савецкі апарат працуе над ажыцьцяўленьнем пяцігадовага пляну. Для яго ажыцьцяўленьня неабходна ўтварыць такія ўмовы работы ўсім установам, якія забясьпечвалі-б зьніשчэньне ўсіх перашкод на гэтым шляху.

Бязумоўна, справа рацыяналізацыі савецкага апарату будзе працягвацца і надалей. Намячаецца ў недалёкім будучым вельмі значная рэарганізацыя савецкага апарату. Вопыт у гэтым напрамку ўжо робіцца—арганізавана Віцебская вопытна-паказальная акруга. Але трэба, каб мясцовыя органы ўлады не абмяжоўваліся толькі ажыцьцяўленьнем новага закону, але і прапрацоўвалі ў сябе як новыя мэтады работы, гэтак і пытаньні аб далейшай рэарганізацыі савецкага апарату. Калі ў гэту справу будуць залучаны самыя шырокія колы працоўных,—яна будзе пасьпяхова вырашана. Сэкцыі і камісіі пры саветах, як найбольш масавыя арганізацыі, павінны больш зьвяртаць увагі на савецкі апарат. Зараз, калі праводзіцца чыстка савецкага апарату і робіцца пры гэтым агляд структуры апарату, мэтадаў яго работы, узаемаадносін з іншымі зьвеньнямі апарату, момант для такой працы зьяўляецца найбольш падыходзячым. Гэты момант трэба скарыстаць для рашучай барацьбы за здаровы, гнуткі, просты па сваёй структуры, савецкі апарат. Гэта—адна з неабходнейшых умоў пасьпяховага сацыялістычнага будаўніцтва.

А. Пятосін.

# Праэкт „асноўных палажэньняў аб арганізацыі сельскіх саветаў у Саюзе ССР“.

Праэкт цалкам і поўнасьцю мае сваёй мэтай прыстасаваньне нізавых органаў савецкай улады — сельсаветаў—да выкананьня вялічэзных задач сацыялістычнай перабудовы вёскі па шляху калектывізацыі і каапэраваньня. Таму шырокае абгаварэньне гэтага закону надзвычайнай важнасьці саветамі, выканаўчымі, камітэтамі, грамадзкімі арганізацыямі і ўсімі працоўнымі масамі набывае вялікае значэньне і дапаможа выпрацаваць Саюзнаму Ўраду закон, які сапраўды будзе моцнай асновай для разьвіцьця сацыялістычных форм сельскай гаспадаркі і рашучым наступленьнем на капіталістычныя элементы вёскі.

Пасьпяховае выкананьне задач па сацыялістычнай перабудове вёскі, якія стаяць зараз перад саветамі і якія ўскладаюцца на саветы праэктам „Асноўных палажэньняў аб сельскіх саветах у СССР“, будзе галоўным чынам залежаць ад арганізацыйнай структуры сельсаветаў,—наколькі гэта структура будзе спрыяць вырашэньню гэтых задач.

У зьвязку з гэтым трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на арт. 1 Палажэньня, у якім гаворыцца, што сельскія саветы ўтвараюцца ва ўсіх паселішчах, прычым толькі дробныя паселішчы могуць аб'яднацца адным сельсаветам. Сэнс гэтага артыкулу яскрава гаворыць аб тым, што ва ўсіх паселішчах, у якіх ёсьць ня менш 300 жыхароў, утвараецца сельсавет.

Як вядома, пасьля раёнаваньня сельсаветы БССР узбуйнены, і яны яднаюць зараз ад 2-х да 5 тысяч жыхароў. Калі перабудаваць арганізацыйную структуру сельсаветаў у адпаведнасьці з „Асноўнымі палажэньнямі аб арганізацыі сельсаветаў у СССР“, дык колькасьць сельсаветаў у БССР, пры пераважнай большасьці дробных вёсак, пасёлкаў і хутароў, павялічыцца ня менш чым у 4 разы. У зьвязку з гэтым паўстае пытаньне, ці змогуць такія дробныя сельсаветы ажыцьцяўляць свае правы і абавязкі, якія ўскладаюцца на іх палажэньнем? Па-першае, ажыцьцяўленьне сваіх правоў і абавязкаў сельсаветамі будзе ў значнай меры залежыць ад матар'яльнай базы, якая будзе падведзена пад сельсаветы. Матар'яльная база сельсаветаў, бязумоўна, павінна грунтавацца на самастойных бюджэтах, але практычна бюджэт такіх дробных сельсаветаў нічога рэальнага прадстаўляць ня будзе, а будзе грунтавацца толькі на выдатках па ўтрыманьню апарату сельсавету, бо нават у кожным раёне будзе менш школ, чым саветаў, а гэта значыць, што ў тэрытарыяльным школьным раёне будзе больш, чым адзін сельсавет.

Прыбыткі такіх сельсаветаў будуць таксама грунтавацца толькі на адлічэньні ад сельгаспадатку, а прыбыткі ад прадпрыёмстваў, надбаўкі да дзяржаўных крыніц па прамысловаму і падаходнаму падатках і іншыя мясцовыя падаткі і зборы будуць у тэй ці іншай меры выходзіць за межы некалькіх сельсаветаў, дзякуючы чаму створыцца непаразуменьне ў разьмеркаваньні іх, а ў выніку яны застануцца і надалей крыніцамі прыбытку раённых бюджэтаў.

Таксама ўключэньне ў бюджэты такіх сельсаветаў сродкаў на дабрабыт вёскі (дарожнае будаўніцтва, супроцьпажарныя і санітарныя мерапрыёмствы і г. д.) і на іншыя выдаткі толькі распыліць сродкі і жаднага гаспадарчага эфэкту ня дасьць.

У справе кіраваньня і дапамогі ў рабоце ўстаноў, прадпрыёмстваў і арганізацый можа мець месца паралелізм у зьвязку з тым, што ўстановы, прадпрыемствы і арганізацыі будуць пашыраць сваю дзейнасьць за межы ня толькі аднаго, але і некалькіх сельсаветаў.

Выдаткі на ўтрыманьне такіх дробных сельсаветаў таксама павялічацца ў некалькі разоў. Напрыклад, калі на ўтрыманьне апарату 1481-го сельсавету БССР, якія існуюць зараз, трацiцца 995.200 з лішнім руб. з разліку на два платных работнікі ў кожным сельсавеце па 28 руб. у месяц на кожнага, дык з падрабненьнем сельсаветаў, калі выходзіць з гэтага-ж разьліку,—выдаткі павялічацца да 4.905.600 р., выходзячы з таго, што ў БССР па перапісу 1926 году налічваецца 1528 паселішч з 500 і больш жыхарамі, у якіх, згодна праэкту палажэньня, у кожным будуць арганізованы сельсаветы. У астатніх насельных пунктах з колькасьцю да 500 жыхароў, налічваецца ўсяго 2.901.900 з лішнім чалавек насельніцтва. Калі прыняць пад увагу раскіданасьць дробных паселішч, то ў арганізованыя сельсаветы з тых паселішч, выходзячы з асноўных прынцыпаў палажэньня, магчыма будзе аб'яднаць ня больш 500 жыхароў, гэта значыць, што з гэтых паселішч будзе арганізавана ня менш 5.800 сельсаветаў. Такім чынам колькасьць сельсаветаў, у параўнаньні з зараз існуючай колькасьцю, павялічыцца прыблізна да 7.300 або амаль што ў 5 разоў, а таксама ў столькі-ж разоў павялічацца выдаткі на ўтрыманьне апарату сельсаветаў.

Калі дапусьціць магчымасьць абыйсьціся з адным платным работнікам у сельсавеце, дык і ў гэтым выпадку выдаткі на ўтрыманьне сельсаветаў таксама павялічацца больш чым у два разы.

У зьвязку з павялічэньнем колькасьці сельсаветаў у некалькі разоў, мы сустрэнемся з фактам неабходнасьці павялічэньня штатаў РВК для кіраўніцтва і абслугоўваньня сельсаветаў, а гэтым самым павялічацца адміністрацыйныя выдаткі.

Падыходзячы да пытаньня палепшаньня абслугоўваньня выбаршчыкаў, трэба сказаць, што хоць абслугоўваньне некалькі і палепшыцца, але толькі ў набліжэньні сельсаветаў да выбаршчыкаў, як органаў улады, якасьць-жа абслугоўваньня наведвальнікаў у большай частцы сельсаветаў будзе нізкай таму, што мы яшчэ і зараз на вёсцы, як і ва ўсіх галінах нашай працы, упіраемся ў пытаньне якасьці кадраў работнікаў, а з павялічэньнем колькасьці сельсаветаў гэта пытаньне яшчэ больш ускладніцца і, такім чынам, ажыцьцяўленьне сваіх пашыраных правоў сельсаветамі стане яшчэ больш складаным і ня будзе мець належнага практычнага вырашэньня як з палітычнага, так і з практычнага, гаспадарчага і культурнага боку.

Вопыт работы дробных сельсаветаў, якія існавалі ў БССР да раёнаваньня амаль у кожнай вёсцы, паказаў, што работа ў сельсаветах работнікамі сельсаветаў праводзі-

лася разам з работай на сваёй гаспадарцы, а работа ў сельсавеце зьяўлялася чымсьці другарадным, дадатковым. Такія зьявішчы нямінуча будуць мець месца і зараз па розных аб'ектыўных гаспадарчых прычынах сярод работнікаў, якія будуць працаваць у сельсаветах, паколькі яны, у пераважнай сваёй колькасьці, будуць цесна зьвязаны са сваёй сельскай гаспадаркай, якая будзе тут-жа ў вёсцы.

Выходзячы з гэтых абставін, зусім немэтазгодна драбніць сельсаветы, а трэба зьвярнуць максімум увагі на палепшаньне кадраў існуючых зараз сельсаветаў шляхам штогадовай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі іх і вылучэньня на адказную работу ў саветы новых кадраў з батракоў і беднаты.

Арганізацыя самастойных бюджэтаў у кожным сельсавеце набывае асаблівую важнасьць, як аснаўная эканамічная база, на чым іменна груntуецца канкрэтная работа сельсаветаў, прычым, асобнай пастановай ураду павінен быць вызначан пэўны тэрмін арганізацыі бюджэтаў ва ўсіх сельсаветах, а мясцовыя выканаўчыя камітэты павінны распрацаваць канкрэтныя пляны арганізацыі бюджэтаў ва ўсіх сельсаветах. Нерашучасьці ў гэтым пытаньні мясцовых выканкомаў, асабліва раённых, павінен быць пакладзен канец.

Практыка работы рэвізійных камісій паказала, што кантроль рэвізійных камісій толькі за ажыцьцяўленьнем фінансава-гаспадарчай дзейнасьці сельсаветаў зьяўляецца вузкім мэтадам работы гэтых камісій, а на практыцы яны сваю дзейнасьць пашыралі за межы сваіх правоў, якія былі нададзены ім палажэньнем пра рэвізійныя камісіі, кантралюючы ўсю дзейнасьць сельсаветаў. Між іншым, усебаковы кантроль рэвізійных камісій за дзейнасьцю сельсаветаў, там, дзе ён праводзіўся, даваў добрыя вынікі. Зусім зразумела, што калі надаць рэвізійным камісіям правы кантраляваць усю дзейнасьць сельсаветаў, дык то для гэтага патрэбна максімум увагі з боку саміх сельсаветаў і выканкомаў у кіраўніцтве работай рэвізійных камісій, што, на вялікі жаль, зараз зьяўляецца вялікім недахопам у рабоце саветаў і выканкомаў.

У арт. 32 праэкту палажэньня гаворыцца: „Пастановы агульных сходаў праводзяцца ў жыцьцё сельскім саветам. У тых выпадках, калі сельскі савет знаходзіць пастанову агульнага сходу незаконнай, або немэтазгоднай, ён прыпыняе выкананьне памянёнай пастановы і зараз-жа паведамляе аб гэтым раённаму выканаўчаму камітэту, які і вырашае ўзьнікшыя рознагалосьсі".

Гэты артыкул зусім яскрава гаворыць, што сельсавет ня мае права адмяніць незаконную пастанову агульнага сходу, а толькі прыпыніць выкананьне яе, канчатковае-ж вырашэньне рознагалосьсяў паміж сельсаветам і агульным сходам застаецца за РВК.

Гэты артыкул, як відаць, груntуецца на тым, што паколькі сельсавет арганізуецца ў кожным паселішчы, дзе налічваецца больш 300 жыхароў, і выбіраецца агульным сходам выбаршчыкаў гэтага паселішча, дык, такім чынам, сельсавет ня мае права адмяняць пастанову агульных сходаў выбаршчыкаў, але тагды будзе нейкая неўвязка арт. 32 з арт. 8 палажэньня, які гаворыць, што сельскі савет зьяўляецца вышэйшым органам на падпарадкаванай яму тэрыторыі, які яднае працоўнае насельніцтва каля ўдзелу ў цэнтральным і мясцовым дзяржаўным кіраваньні, гаспадарчым і сацыяльна-культурным будаўніцтве. Калі не надаць сельсаветам правоў для адмены незаконных і немэтазгодных пастаноў агульных сходаў, дык тагды агульныя сходы па пытаньнях, якія будуць разглядацца на сходах і па іх выносіцца пастановы, будуць чымсьці вышэйшым, чым сельсавет, у той час, калі агульныя сходы не зьяўляюцца органамі ўлады.

Трэба надаць сельсаветам правы, каб яны мелі права адмяняць усе пастановы агульных сходаў свайго сельсавету, за выключэньнем пастаноў аб выбарах самога сельсавету, адмена якіх уваходзіць толькі ў кампэтэнцыю вышэйстаячых органаў улады.

Калі пакінуць вырашэньне рознагалосьсяў паміж агульнымі сходамі і сельсаветамі, якія ўзьнікаюць па пытаньнях пастаноў агульных сходаў, дык гэта будзе затрымліваць вырашэньне прынцыповых пытаньняў і будзе ствараць непатрэбную цаганіну.

П. Ягаўдзік.

## Да абгаварэньня саюзнага закону аб арганізацыі сельскіх саветаў.

Адным з важнейшых пытаньняў высоўваемых у саюзным законе аб арганізацыі сельскіх саветаў зьяўляецца размер тэрыторыі яго. Як у законе, так і ў артыкуле т. Енукідзе па гэтаму пытаньню, падкрэсліваецца, што павінна быць узята лінія на маленькі савет (300 жыхароў), бо толькі такі савет, як быццам, зможа забясьпечыць выкананьне сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы.

Нам здаецца, што ў гэтым пытаньні ёсьць буйная памылка і што гэта думка, укладзеная ў закон, супярэчыць тэй мэце, якая пастаўлена законам—аб павялічэньні правоў сельскіх саветаў. Нам здаецца, што такі „карлікавы" сельскі савет ня зможа выкарыстаць дадзеных яму і павялічаных правоў. У большай сваёй частцы такі савет ня будзе мець ні школы, ні хаты-чытальні, ня зможа мець самастойна ні вытворчага прадпрыемства і праводзеньне культурных і гаспадарчых мерапрыемстваў будзе ўпірацца ў неабходнасьць аб'яднаньня дзейнасьці цэлай групы саветаў і ўнясе надзвычайную стракатасьць у характары дзейнасьці паасобных саветаў.

Пры рашучым тэмпе на калектывізацыю сельскай гаспадаркі, буйнай калектывізацыі—няма ніякай мэтазгоднасьці ўтвараць маленькія саветы.

Сельскі бюджэт таксама траціць усякі сэнс, бо за адсутнасьцю хоцьбы такой установы, як школа, яго выдатковая частка будзе складацца выключна з выдаткаў на выплату пэнсіі працаўнікам сельсаветаў.

Такім чынам, фінансава-бюджэтныя меркаваньні прымусілі нас прысьці да вывадаў, што савет павінен будавацца на тэрыторыі ад 2.000 да 5.000 чал., у залежнасьці ад залюдненасьці паасобных мясцовасьцяў. Выключэньнем могуць быць зусім мала залюдненыя мясцовасьці (Якуція), або нацыянальныя саветы для абслугоўваньня раскіданых групамі нацменшасьцяў (палякі, яўрэі, латышы і г. д.).

У сувязі з гэтым, яшчэ больш трэба ісьці па шляху ўкараненьня

ў працу саветаў калектыўнага кіраўніцтва і рашуча замяняць кіраўніцтва старшыні або сакратара сельсавету—прэзыдыумам сельскага савету.

Побач з гэтым, у законе павінен быць дадзен рашучы ўпор на тое, што работа саветаў павінна насіць масавы характар і працякаць у формах, якія забясьпечылі-б поўны ўдзел у рабоце саветаў рабочых, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас, і што саветы павінны забясьпечыць шырокае ажыцьцяўленьне права крытыкі работы саветаў і работы кожнага органа ўлады. Забясьпечыць спрыяючыя ўмовы выбарнай работніцы, батрачцы і сялянцы, кіраваць іх працай і выхоўваць актыўных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва.

У законе вельмі недастаткова сказана аб правох саветаў у галіне рэвалюцыйнай законнасьці і адміністрацыйнай. Артыкул 14 гаворыць, што „сельскія саветы наглядаюць за выкананьнем усімі грамадзянамі і службовымі асобамі законаў і распараджэньняў улады“; у артыкуле гаворыцца толькі аб абавязках сельскіх саветаў, але аб правох нічога не гаворыцца, і толькі ў артыкуле 28 дадаецца, што пастановамі ЦВК саюзных рэспублік могуць быць наданы правы выдаваць абавязковыя пастановы. Да папярэдняга артыкулу трэба ўнесьці такія правы, як выбары сельскіх судоў, права накладаць адміністрацыйныя спагнаньні. Наданьне саветам бюджэтных правоў патрабуе адпаведных зьмен і палажэньняў аб сельскіх рэвізійных камісіях і пабудаваць яго па прыкладу палажэньня аб раёных рэвізійных камісіях. Неабходна яшчэ ўнесьці зьмену ў тэрмін справаздачнасьці сельскіх саветаў перад выбаршчыкамі і без перашкод для справы можа быць вызначана 2 разы ў год, замест не радзей 3-х разоў.

У. Бяляк.

---

## Папраўка.

Папярэдні нумар дадатку „Саветы Беларусі“, які вышаў у ліпені м-цы г. г. і памечан нумарам 6 (10), належыць лічыць як вышаўшы за чэрвень — ліпень пад нумарам 6—7 (10—11).

# Аб плянавасьці працы с.-с. і яго камісій

Аднэй з вялікіх прычын слабасьці працы многіх с-с да сучаснага моманту зьяўляецца адсутнасьць плянавасьці іх працы. Пляны ў многіх с-с або зусім адсутнічаюць, або зьяўляюцца дрэннай копіяй плянаў РВК і не скарыстоўваюцца ў штодзённай працы. Вось чаму ў многіх с-с шмат увагі кладзецца на дробныя пытаньні ў той час, як асноўныя пытаньні жыцьця вёскі не прапрацоўваюцца. Але і ў тым выпадку, калі гэтыя пытаньні і ставяцца на паседжаньнях с-с, мы рэдка бачым канкрэтныя, жыцьцёвыя пастановы па гэтых пытаньнях. Гэта тлумачыцца тым, што пытаньне да таго, як ужо ставіцца на пасяджэньні прэзыдыуму, або на пленуме с-с, нікім не прапрацоўваецца і ніхто не падрыхтоўвае прапаноў па ім.

Такое становішча ня можа працягвацца ў сучасны момант, калі партыя і савецкая ўлада паставіла перад усёй краінай вялізарныя задачы перабудовы вёскі, уздыму яе культурнага і гаспадарчага становішча, прасоўваньня яе па сацыялістычнаму шляху. Роля с-с, як і кіруючага органу, значна ўскладняецца. Ён павінен прыняць сапраўдны ўдзел у гэтым будаўніцтве, а для гэтага перш за ўсё трэба, каб ён меў ясны малюнак тых задач, якія перад ім стаяць, і тых мерапрыёмстваў, пры дапамозе якіх ён зможа выканаць гэтыя задачы. А для гэтага трэба каб ён працаваў плянава.

Аргаддзел ЦВК зьмяшчае ў гэтым нумары прыкладны плян працы с-с і некалькіх камісій.

Пры складаньні сваіх плянаў неабходна:

1. Каб с-с і камісіі не капіравалі прыкладнага пляну, а распрацоўвалі *свой* плян у залежнасьці ад умоў і патрэбаў свайго с-с і ад патрэбаваньня таго пэрыяду (кварталу), на які плян распрацоўваецца.

2. Каб пляны камісій былі прыстасаваны да пляну с-с з такім разьлікам, каб пытаньні ў камісіях прапрацоўваліся раней чым у с-с.

3. Каб кожныя больш-менш важныя пытаньні прэзыдыуму або пленуму сельсаветам прапрацоўваліся перш у камісіі с-с.

УВАГА. Прэзыдыум або пленум с-с можа аб'яднаць у адным пытаньні некалькі пытаньняў, распрацаваных у камісіі. Напрыклад, камісія распрацавала пытаньні: а) аб пабудове тратуараў, б) аб праводцы канаў, в) аб санітарным становішчы студняў, г) аб санітарным становішчы двароў. А прэзыдыум можа паставіць адно пытаньне „аб санітарным становішчы ў с-с“, дзе камісія асьвятляе і дае прапановы па ўсіх пытаньнях санітарнага становішча.

4. Камісіі павінны кожныя пытаньні свайго пляну вывучаць праз сябраў камісіі і абмеркаваць на сваіх пасяджэньнях. На гэтых пасяджэньнях трэба абмеркаваць таксама канкрэтныя прапановы па пытаньні.

5. Прэзыдыум або пленум можа згадзіцца з прапановамі камісіі і тады ўнесьці іх у сваю пастанову (рэзалюцыю) бяз зьмен, можа зьмяніць іх, можа не згадзіцца зусім і тады або высунуць свае прапановы або даручыць камісіі прапрацаваць іх дадаткова.

6. Прапановы камісіі становяцца абавязковымі для правядзеньня ў жыцьцё толькі тады, калі яны прымаюцца прэзыдыумам або пленумам с-с і ўключаюцца ў яго пастанову (рэзалюцыю).

7. Прэзыдыум с-с (старшыня) павінен сачыць, каб плян працы выконваўся. У выпадку, калі прэзыдыум не пасьпее разглядзець усе пытаньні на сваім пасяджэньні, трэба назначыць нечарговае паседжаньне прэзыдыуму.

8. Старшыня павінен таксама сачыць, як выконваюцца пастановы прэзыдыуму, або пленуму, рэгулярна інфармуючы аб гэтым апошніх.

9. Плян складаецца кожныя тры месяцы за 2 тыдні да сканчэньня тэрміну папярэдняга пляну.

10. Пры складаньні плянаў трэба кіравацца: а) палажэньнем аб працы с-с, б) наказам выбаршчыкаў, в) чарговымі задачамі, якія высоўвае дадзеная квадра і ўмовы працы сельсавету.

# Прыкладны плян працы сельсаветаў і яго камісій на 3 мес.

| НАЗВА ПЫТАНЬНЯ | Дзе абмяркоўваецца | Калі абмяркоўваецца | Хто падрыхтоўвае | Хто дакладвае |
|---|---|---|---|---|
| 1. Вынікі асеньняй пасеўнай кампаніі. | На Прэзыдыуме с/с. | 3 кастрычн. | Зямельная камісія. | Старшыня зямельнай камісіі. |
| 2. Вынікі працы ясель (або пляцоўкі). | „ | „ | Камісія па палепш. быту жанчын. | Старшыня бытавой камісіі. |
| 1. Вынікі асеньняй пасеўнай кампаніі. | На пашырэн. Пленуме с с або сходу сялян. | 6 кастрычн. | Зямельная камісія. | Старшыня с сав. (або старшыня зям. камісіі). |
| 1. Аб ходзе кампаніі па сысканьню падатку і страхоўкі. | На Прэзыдыуме. | 10 кастрычн. | Падатковая камісія | Старшыня падатковай камісіі. |
| 2. Аб працы жанчын актывістак. | „ | „ | Камісія па палепш. быту жанчын. | Член с/с—жанчына; (садаклад старшыні). |
| 3. Вынікі ўкамплектаваньня школ. | „ | „ | Культ. сацыяльная камісія | Старшыня культ. камісіі. |
| 1. Аб працы калектыву. | На Прэзыдыуме. | 17 кастрычн. | Старшыня калект. і Зям. камісіі. | Старшыня калектыва; (садакл. прад. зям. кам.). |
| 2. Аб працы с/г. таварыстваў і арганізацыі новых. | „ | „ | Зям. каміс. | Прадстаўнік зямельн. камісіі. |
| 3. Аб санітарным становішчы хат і мерапрыёмствах да яго палепшаньня. | „ | „ | Быт. каміс. | Саніт. бытавая камісія. |
| 1. Аб працы каапэрацыі і каапэраваньні насельніцтва. | На Прэзыдыуме. | 24 кастрычн. | Каапэратыўная камісія. | Каапэратар; (садаклад прадстаўніка каапэрат. камісіі). |
| 2. Аб працы хаты-чытальні (Чырв. кутка). | „ | „ | Культ. камісія. | Хатнік; (садаклад прадст. культ. камісіі). |
| 3. Аб падрых. да сьвята гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі. | „ | „ | „ | Старшыня культ. камісіі. |
| 1. Аб працы каапэрацыі і каапэрав. насельніцтва. | На Пленуме. | 27 кастрычн. | Каапэратыўная камісія. | Каапэратар. |
| 2. Даклад аб працы калектыву. | „ | „ | „ | Старшыня калект. і прадст. каапэрат. камісіі. |
| 3. Аб правядзеньні сьвята гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі. | „ | „ | Культ. камісія | Старшыня с/сав. |
| 1. Аб разьмеркаваньні лесу сярод насельніцтва і аб ахове лесу. | На прэзыдыуме | 31 кастрычн. | Лясная камісія. | Старшыня лясн. камісіі. |
| 2. Аб выпрацоўцы пляну працы па ліквідацыі няпісьменнасьці. | „ | „ | Культурная камісія. | Старшыня культ. камісіі. |
| 3. Аб забясьпечаньні школ апалам. | „ | „ | „ | „ |
| 1. 12 год Кастрычнікавай рэвалюцыі. | Пленум сумесна са ўсімі арганіз. | 6 лістапада | — | Старшыня с/с або прадст. яч. (РК). |
| 1. Вынікі будаўніцтва па самаабкладаньню і далейшыя задачы будаўніцтва ў с/сав. | Прэзыдыум | 14 лістапада | Старшыня с/с і камісія санітарна-бытавай. | Старшыня с/с. |
| 2. Аб арганізацыі мэліарацыйнага т-ва. | „ | „ | Зямельная Камісія. | Старшыня зямельн. камісіі. |
| 3. Аб каапэрав. жанчын і ўдзеле жанчын у працы каапэрацыі. | „ | „ | Камісія па быту жанчын. | Старшыня камісіі па быту. |

## Прыкладны плян працы сельсаветаў і яго камісій на 3 мес. (*Працяг*).

| НАЗВА ПЫТАНЬНЯ | Дзе абмяркоўваецца | Калі абмяркоўваецца | Хто падрыхтоўвае | Хто дакладвае |
|---|---|---|---|---|
| 1. Аб ходзе хлебазагатовак. | Прэзыдыум | 21 лістапада | Каапэратыўная камісія. | Старшыня каапэр. камісіі. |
| 2. Аб забраніраваньні насеньня да вясеньняй пасеўнай кампаніі. | " | " | Зямельная камісія. | Прадстаўнік зямельнай камісіі. |
| 3. Аб захоўваемай арэндзе зямлі. | " | " | " | " |
| 1. Аб становішчы няпісьменнасьці ў с/с. і ходзе працы па яе ліквідацыі. | Прэзыдыум | 28 лістапада | Культ. сац. камісія. | Старшыня культ. камісіі. |
| 2. Аб няпісьмен. жанчын. | " | " | Камісія па быту жанчын. | Старшыня бытавой кам. |
| 3. Аб каапэраваньні беднаты і батрацтва. | " | " | Рэвіз. камісія. | Старшыня каапэр. камісіі. |
| 4. Аб становішчы і працы ў канцылярыі с/сав. | " | " | " | Старшыня рэвіз. камісіі. |
| 1. Вынікі будаўніцтва па самаабкладаньні і далейшыя задачы будаўніцтва с/сав. | Пленум | 1 сьнежня | Старшыня с/с і камісія па быту. | Старшыня с/сав. |
| 2. Аб працы першічных каапэр. аб'ядн. і аб арганізацыі новых. | " | " | Каапэратыўная камісія. | Старшыня каапэр. камісіі. |
| 1. Аб культурным абслугоўваньні насельніцтва (радыё, кіно, газэты і гурткі). | Прэзыдыум | 5 сьнежня | Культ. сац. камісія. | Прадстаўнік культ. камісіі. |
| 2. Аб санітарным становішчы ў с/сав. | " | " | Культ. сац камісія і бытавая камісія. | Прадстаўнікі культ., сацыяльн. і бытав. кам. |
| 3. Даклад фэльчара аб яго працы. | " | " | Фэльчар. | Фэльчар. |
| 1. Даклад аб працы КУДап. | Прэзыдыум | 12 сьнежня | Прэз. КУДап. | Старшыня КУД. |
| 2. Аб арганізацыі новага калектыву | " | " | Зямельн. каміс. і КУД. | Старшыня Кам. У. Дапам. |
| 3. Аб загатоўках другарадных прадуктаў. | " | " | Каапэратыўная камісія. | Прадстаўнік каапэр. камісіі. |
| 1. Аб становішчы батрацтва па с/сав | Прэзыдыум | 19 сьнежня | Батрачком або спэц. камісія с/с. | Старшыня батрачкому або камісіі. |
| 2. Аб наведваньні школы дзяцьмі беднаты і батрацтва. | " | " | Культ. камісія. | Старшыня камісіі. |
| 3. Аб становішчы сялянск. жывёлы і мерапрыёмствах да яго палепшаньня. | " | " | Зямельн. камісія. | Прадстаўнік зямельн. камісіі. |
| 1. Аб мерапрыёмствах па палепшаньню якасьцю насеньня. | Прэзыдыум | 26 сьнежня | Зямельн. камісія. | Прадстаўнік зямельн. камісіі. |
| 2. Аб падрыхтоўцы да вясеньняй пасеўнай кампаніі. | " | " | " | " |
| 3. Даклад культурнай камісіі аб сваёй працы. | " | " | Культ. камісія. | Старшыня культ. камісіі. |
| 1. Даклад падатковай камісіі аб сваёй працы. | Прэзыдыум | 31 сьнежня | Падат. камісія. | Старшыня падатковай камісіі. |
| 2. Даклад камісіі па палепшаньню быту жанчын. | " | " | Саніт. бытав. камісія. | Старшыня саніт.-бытавой камісіі. |
| 3. Аб правядзеньні справаздачы с/с. перад выбаршчыкамі. | " | " | Старшыня с/с. | Старшыня с/с. |

## Прыкладны плян працы зямельнай камісіі с-с
**на кастрычнік—лістапад—сьнежань.**

| НАЗВА ПЫТАНЬНЯЎ | Калі абмяркоўваецца на пасяджэньні камісіі | Хто падрыхтоўвае пытаньне да пасяджэньня | Дзе будзе далей абмяркоўвацца |
|---|---|---|---|
| 1. Вынікі асеньняй пасеўнай кампаніі. | 1-га кастр. | Т.т. Савенак, Пытравец, Нікіценка. | Прэзыдыум і Пленум с/с. |
| 1. Аб працы калектыву. | 15-га кастр. | Т.т. Федасенка, Старавойт, Дзяткевіч. | Прэзыдыум і Пленум с/с. |
| 2. Аб працы с/гаспад. таварыства і арганізацыі новых. | „ | Т.т. Федасенка, Гаўрылавец, Пракопчык. | Прэзыдыум. |
| 1. Аб арганізацыі с/гасп. гуртка | 1-га лістап. | Т.т. Філіпчык, Савёнак, Прохараў. | Прэзыдыум. |
| 2. Аб арганізацыі мэліарацыйнага т-ва. | „ | „ | Прэзыдыум і Пленум. |
| 1. Аб забраніраваньні насеньня да вясеньняй кампаніі. | 15-га лістап. | Т.т. Пытравец, Філіпчук. | Прэзыдыум. |
| 2. Аб скрытай арэндзе зямлі. | „ | Т.т. Савёнак, Прохараў, Дзяшкевіч. | „ |
| 1. Аб арганізацыі новага калектыву. | 1-га сьнежня | Т. Нікіценка. | Прэзыдыум. |
| 2. Аб пустуючай зямлі і мерапрыемствах да поўнага скарыстаньня яе. | „ | Т.т. Гаўрылавец, Старавойт, Пракопчык. | Прэзыдыум і Пленум. |
| 1. Аб становішчы жывёлы ў с/с і мерапрыемствах да яго палепшаньня. | 15-га сьнежн. | Т.т. Філіпчык, Федарэнка. | Прэзыдыум і Пленум. |
| 1. Аб мерапрыемствах да палепшаньня якасьці насеньня. | 30-га сьнежн. | Т.т. Нікіценка, Старавойт. | Прэзыдыум і Пленум. |
| 2. Аб падрыхтоўцы кампаніі да ачысткі насеньня | „ | т. Нікіценка. | „ |

## Прыкладны плян працы бытавой камісіі.

| НАЗВА ПЫТАНЬНЯЎ | Калі абмяркоўваецца на пасяджэн. камісіі | Хто падрыхтоўвае пытаньне для камісіі | Дзе абмяркоўваецца далей |
|---|---|---|---|
| 1. Вынікі працы ясель і дзіц. пляцовак. | 1 кастр | 2 члены камісіі. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб арганізацыі кансультацыйнага агляду дзяцей. | „ | „ | „ |
| 1. Аб санітарн. становішчы хат і мерапрыёмствах да яго палепшаньня. | 15 кастр. | Сан. тройка. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб удзеле жанчын у сьвяткав. гадавіны Кастрычн. Рэвалюцыі. | „ | „ | „ |
| 1. Аб хатняй працы жанчын і аб мерапрыёмствах палепш. гэтае працы. | 30 кастр. | 2 члены камісіі. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб арганізацыі дзіцячай пляцоўкі вячэрняй (на калякт. пачатках). | „ | „ | „ |
| 1. Аб становішчы гаспадарак удоў | 12/XI | Старшыня камісіі. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб працы актывістак і прымацаван. да устаноў | „ | 2 члены камісіі. | „ |
| 1. Аб антырэліг. працы сярод жанчын у сувязі са сьвятамі. | 26/XI | 2 члены камісіі. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб барацьбе са знахаркамі | „ | „ | „ |
| 1. Аб арганіз. калектыўн. пральні. | 10/XII | Старшыня каміс. і 1 член. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб арганізацыі птушкаводнага таварыства. | „ | „ | „ |
| 1. Аб арганіз. супольнай прадзільні. | 25/XII | 2 члены камісіі. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб пабудове лазьні на сродкі самаабкладаньня. | „ | „ | „ |

## Прыкладны плян працы каапэрацыйнай камісіі
### на кастрычнік—сьнежань 1929 г.

| НАЗВА ПЫТАНЬНЯЎ | Калі абмяркоўваецца на камісіі | Хто падрыхтоўвае да пасяджэньня камісіі | Дзе пытаньні далей абмяркоўваюцца |
|---|---|---|---|
| 1. Аб складзе і ліку пытаньняў у каапэрацыі. | 8-га кастр. | Старшыня камісіі. | На Прэзыдыуме і пленуме с/с. |
| 2. Аб пляне далейшага каапэраваньня насельніцтва. | „ | 2 члены камісіі. | „ |
| 1. Аб працы каапэрацыі. | 20-га кастр. | Старшыня каапэр. (прыкашчык) і член камісіі. | На Прэзыдыуме і пленуме с/с. |
| 2. Аб скарыстаньні с.-гасп. крэдыту насельніцтвам. | „ | 2 члены камісіі. | Прэзыдыум |
| 1. Аб арганізацыі і працы каапэрацыйнага кутка. | 2-га лістапад. | Старшыня камісіі. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб каапэраваньні жанчын і аб удзеле жанчын у працы каапэрацыі. | „ | 2 члены камісіі. | „ |
| 1. Аб ходзе хлебазагатовак праз каапэрацыю і аб лішках хлеба ў с-с. | 16-га лістап. | 2 члены камісіі. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб каапэраваньні беднаты і батрацтва. | „ | „ | „ |
| 1. Аб загатоўцы каапэрацыяй прадуктаў другога разраду. | 1-га сьнежня | 2 члены камісіі. | На Прэзыдыуме і савеце каапэрацыі. |
| 2. Аб становішчы памяшканьня і складаў каапэрацыі. | „ | „ | „ |
| 1. Аб наліччы тавараў у каапэрацыі і крамах і аб падборы тавараў. | 15-га сьнеж. | 2 члены камісіі. | На Прэзыдыуме с/с. |
| 2. Аб разьмеры заплачанага паю і мерапрыёмствах па павялічэньню сродкаў каапэрацыі. | „ | „ | На Прэзыдыуме. |
| 1. Аб працы праўленьня і савету каапэрацыі (у парадку праверкі выкананьня пастаноў с/с). | 30-га сьнеж. | Даклад старшыні праўленьня. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб справаздачнасьці Праўленьня каапэрацыі перад пайнікамі. | „ | Даклад Савету. | „ |
| 3. Вынікі працы каапэрацыйнай камісіі. | „ | Старшыня камісіі. | „ |

## Прыкладны плян фінансава-падатковай камісіі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Вынікі індывідуальнага абкладаньня гаспадарак. | 3-га кастрыч. | 2 члены камісіі. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Вынікі выкананьня падатку 1-га тэрміну. | „ | „ | „ |
| 1. Аб зьменах у моцнасьці сялянскіх гаспадарак. | 15-га кастр. | 2 члена камісіі. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб абкладаньні непрац. элемэнтаў с/сав. | „ | „ | „ |
| 1. Плян выкананьня каштарысу па с/с. | 1-га лістап. | 2 члена камісіі. | На Прэзыдыуме. |
| 1. Аб правядзеньні кампаніі па павялічэньню ўкладаў у касу ашчадн. | 15-га лістап. | Старшыня камісіі. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб ходзе выкананьня страхоўкі. | „ | 2 члены камісіі. | „ |
| 1. Аб скарыстаньні сродкаў па самаабкладаньню. | 29-га лістап. | Старшыня камісіі. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб узмацненьні падпіскі на пазыку. | „ | 2 члены камісіі. | „ |
| 1. Аб вучоце неземляробчых заработкаў. | 12-га сьнежн. | 2 члены камісіі. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб папулярызацыі тыражу пазыкі. | „ | Старшыня камісіі. | „ |
| 1. Правядзеньне самаабкладаньня для будаўніцтва ў с/с на будучы год. | 26-га сьнежн. | 2 члены камісіі. | На Прэзыдыуме. |
| 2. Аб ходзе выкананьня падатку і страхоўкі 2-га тэрміну. | „ | „ | „ |

# Прыкладны плян працы культурна-сацыяльнай камісіі

## на кастрычнік—сьнежань 1929 г.

| НАЗВА ПЫТАНЬНЯ | Калі абмяркоўваецца на пасяджэньні камісіі. | Хто падрыхтоўвае да пасядженьня камісіі | Дзе будзе далей абмяркоўвацца. |
|---|---|---|---|
| 1. Вынікі камплектаваньня школ | 5 кастрычніка | Настаўнік і член камісіі | На Прэзыдыуме с-с. |
| 2. Аб дапамозе дзецям беднякоў і батракоў пры наведваньні школы | „ | 2 члены камісіі | „ |
| 3. Аб надрыхтоўцы да сьвяткаваньня гадавіны Кастрычнікавай Рэвалюцыі | „ | „ | „ |
| 1. Аб працы хаты-чытальні (чырв. кутка). | 19 кастрычн. | Хатнік і члены камісіі | На Прэзыдыуме |
| 2. Аб выпісцы газэт і літаратуры ў с-с і па асобных вёсках | „ | 3 члены с-с | „ |
| 1. Аб забясьпечанасьці школы апалам | 20 кастрычн. | Старшыня камісіі | На Прэзыдыуме |
| 2. Аб няпісьменнасьці сярод актыву і мерапрыёмствах да ліквідацыі гэтай няпісьменнасьці | „ | 2 члены камісіі | „ |
| 3. Аб правядзеньні вучоту няпісьменных | „ | Старшыня камісіі | „ |
| 1. Аб складзе няпісьменных на с-с і па асобных вёсках і мерапрыёмствах па ўзмацненьню барацьбы з няпісьменнасьцю | 12 лістапада | 3 члены камісіі | На Прэзыдыуме |
| 2. Аб санітарным становішчы ў с-с | | „ | „ |
| 1. Аб пабудове радыё ў с-с | 25 лістапада | 2 члены камісіі | На Прэзыдыуме |
| 2. Аб арганізацыі сыстэматычнага абслугоўваньня с-с раённай кіноперасоўкай | „ | 1 член камісіі | „ |
| 3. Аб працы гурткоў пры хаце-чытальні | „ | 2 члены камісіі | |
| 1. Аб наведваньні школы дзецьмі бедняты і батракоў | 10 сьнежня | Настаўнік і член камісіі | На Прэзыдыуме |
| 2. Становішча бібліятэкі пры хаце-чытальні (чырв. кутку), абслугоўваньне ёй насельніцтва і аб папаўненьні яе кніжкамі | „ | 2 члены камісіі | „ |
| 1. Аб правядзеньні антырэлігійнай кампаніі | 22 сьнежня | 2 члены камісіі | На Прэзыдыуме |
| 2. Аб барацьбе з самагонаукрэньнем | „ | „ | „ |
| 3. Аб працы культ. камісіі | „ | Старшыня камісіі | „ |

Друкарня БДВ. Галоўлітбел № 595.